*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

**№ 193 (545)**

Аўторак, 27 кастрычніка 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



**Стоп-кадр**



Мая сталіца...

**Так и сказал...**

## И мы вынуждены рыбу мурманскую брать в Норвегии

**...Потому что происходит величайшая глупость. Мы друг друга от большой любви скоро задушим в объятиях — потому что пока мы целуемся и тосты поднимаем, НДС действует. Мы к ним — на 20 процентов свою продукцию дороже, а они к нам — на 20 процентов дороже. И мы вынуждены рыбу мурманскую брать в Норвегии, а алмазы российские покупать за валюту у Бельгии, потому что они там на 20 процентов дешевле.**

**Сергей ЛИНГ,**
**премьер-министр Беларуси.**
*(из выступления на сессии Палаты представителей Национального собрания 23 октября 1998 г.)*

**Чулі?**

## У Мінску будуць іграць лепшыя аркестры свету

Аб пачатку новага культурнага праекта пад назвай "Лепшыя аркестры свету" аб'явіў прадзюсерскі цэнтр "Клас-клуб Джас-Крафт". Першы канцэрт у яго рамках адбыўся ўчора ў Канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі, на сцэне якога паказаў сваё віртуознае майстэрства ансамбль ударных інструментаў Вялікага тэатра Расіі пад кіраўніцтвам Віктара Грышына.

Мінчане атрымалі рэдкую магчымасць пачуць сола на літаўрах, марымбе і вялікім барабане. Арганізаваны гэты канцэрт пры садзейнічанні Беларускага саюза музычных дзеячаў і Беларускай перкусійнай асацыяцыі.

**Эдуард ПІВАВАР.**

**Па сутнасці**

## Чаму не прайшоў праект Барыса Беразоўскага

Удзельнікі рабочай групы па ўдасканаленні дзейнасці СНД і рэфармаванні яе органаў, пасяджэнне якой аднавілася і праходзіла ў Мінску, не пакінулі прадстаўнікоў мас-медыя без сенсацыі. Як паведаміў на прэс-канферэнцыі, праведзенай у гэты ж дзень, Пастаянны і паўнамоцны прадстаўнік нашай краіны пры статутных і іншых органах Садружнасці Сяргей Посахаў, галоўнае пытанне парадку пасяджэння — праект палажэння аб Каардынацыйна-кансультацыйным камітэце, прапанаваны выканаўчым сакратаром Садружнасці Барысам Беразоўскім, быў аднагалосна адхілены і зняты з абмеркавання прадстаўнікамі ўсіх 12-і дзяржаў-удзельніц СНД.

Паводле слоў Сяргея Посахава, удзельнікі пасяджэння не згадзіліся з радыкалізмам Барыса Беразоўскага, які прапанаваў надаць новаму органу вельмі шмат паўнамоцтваў у вырашэнні эканамічных і іншых пытанняў жыццядзейнасці СНД. Сам жа выканаўчы сакратар, зыходзячы з праекта гэтага дакумента, павінен атрымаць функцыі вышэйшай службовай асобы ў Садружнасці, якіх не мае на сённяшні дзень нават старшыня Савета кіраўнікоў дзяржаў Барыс Ельцын.

Адхіліўшы праект палажэння аб Каардынацыйна-кансультацыйным камітэце, удзельнікі пасяджэння вярнуліся да разгляду дакументаў, якія ўжо былі напрацаваны раней.

І ўсё ж, зыходзячы з таго, што было сказана на прэс-канферэнцыі, у працэсе рэфармавання СНД яўна акрэсліліся два альтэрнатыўныя напрамкі. На думку Сяргея Посахава, Барыс Беразоўскі дзейнічае ўразрэз з рытмам работы, які стаў ужо прывычным для прадстаўнікоў краін — удзельніц Садружнасці. Калі "старажылы" лічаць, што прымаць якія-небудзь рашэнні аб лёсе СНД трэба не спяшаючыся, прытрымліваючыся правіл кансэнсусу, то новыя кіраўнікі праводзяць сваю палітыку, не лічачыся з думкай тых, хто працуе ў мінскай штаб-кватэры. І тут зноў узнікае пытанне аб ролі прадстаўніцтва СНД, размешчанага ў Маскве.

У Сяргея Посахава дзейнасць так званай маскоўскай групы асаблівых сімпатый яўна не выклікае. Зрэшты, як ён сам сказаў, іншыя прадстаўнікі дзяржаў таксама без захаплення, напрыклад, успрынялі прапанову аб павелічэнні ўдвая бюджэту маскоўскага прадстаўніцтва. Гэтыя і іншыя факты, прыведзеныя Сяргеем Посахавым, на яго думку, сведчаць аб жаданні Барыса Беразоўскага стварыць у Маскве другую штаб-кватэру Садружнасці, хоць сам выканаўчы сакратар публічна заяўляе аб адваротным.

**Вольга ШЧАДРЫНА.**

**Здарэнні**

## Міна — на дзіцячай пляцоўцы

Сёлета жыхарам Віцебска неаднаразова прыходзілася сутыкацца з экстрэмальнымі сітуацыямі. Тройчы ў розных кутках горада абясшкоджвалі разлітую ртуць, падлеткі везлі ў трамваі баявы зарад, сапёры знаходзілі ў пад'ездах дамоў розныя выбуховыя прыстасаванні, калі даводзілася эвакуіраваць насельніцтва. Днямі да гэтай працэдуры прыйшлося прыбегнуць зноў, бо ў пясочніцы ў двары дома ў цэнтры горада знайшлі савецкую супрацьпяхотную міну канца вайны. Смяротэльная цацка захавала свой таварны выгляд і да таго ж была загорнута ў поліэтыленавы пакет.

Верагодна, той "жартаўнік", які падлажыў міну сюды, і патэлефанаваў напярэдадні каля поўначы ў міліцыю. Прыйшлося тэрмінова ахапіць тэрыторыю і выставіць міліцэйскі пост. Раніцай на месцы здарэння з'явіліся спецыялісты, якія адвялі пагрозу ад людзей. І на гэты раз усё абышлося, вось толькі адно непакоіць: ці не ірване па-сапраўднаму ў наступны раз? Надта ўжо многа развялося ў нас розных бамбістаў-тэрарыстаў.

**Уладзімір ШЫК.**



**Картинки с натуры**

## "Лира" забвения. На трамвайных путях...

В Минске на пересечении маршрутов по улицам Варвашени и Красной сошел с рельсов трамвай. Ехавший в попутном направлении молдавский МАЗ (госномер СО AF-541) вынужден был экстренно затормозить. Но тормоза, видимо, сработали не на всех колесах и "фуру" занесло вправо так, что она задела двигавшийся в соседнем ряду "Фольксваген-Пассат" (госномер 57-95 МР): бампер у легкового авто снесло, левое крыло покорежило...

Тем временем трамваи прибывали и прибывали: с трех сторон их собралось уже более двух десятков, а поставить трамвай на рельсы было нечем. Кстати, пассажиров высаживали, что называется, где попало. А когда удалось, наконец, возобновить движение сначала в одном направлении: от озера — к железнодорожному вокзалу, водитель 428-й "четверки" подобрала свою знакомую и демонстративно захлопнула двери перед остальными пассажирами. Аналогично поступила и водитель следовавшей за ним "тройки". Так что до проспекта пассажирам пришлось добираться пешком.

Происшествие обошлось без жертв и увечий. Можно было бы и забыть. Но я наблюдал за тем, как происходила ликвидация аварии, и тут кое-что наводило на определенные раздумья. Водитель трамвая с жесткой сцепкой вынуждена была буксировать впереди идущую машину, вышедшую из строя. Но при повороте на ул.Красной обе сидящие за рычагами управления и Марина, и Тамара даже не взглянули на "лиру", которая указывает, в каком направлении повернуты стрелки. А поскольку стрелки "держали курс" в сторону Комсомольского озера, то водитель следующего трамвая стала резко тормозить. Потом уже обе, сбившись с маршрута, приступили, говоря железнодорожным языком, к маневру. Сзади идущий трамвай стал оттягивать впереди идущий назад, чтобы все-таки совершить потом поворот. Но в это время лопнула проушина буксируемого устройства (фаркопа). Задний ход получился только у сзади идущего трамвая, а передний, выходит, занесло...

В том, что трамваи выходят неисправными на маршруты и их приходится буксировать, безусловно, вина технических и диспетчерско-контрольных служб. Но и водители нуждаются, видимо, в инструктажах, как действовать в экстремальных условиях. Происшествие, случившееся на прошлой неделе в самом центре столицы, еще раз показало, что в трамвайно-троллейбусных и автобусных парках забывают о таких "мелочах". А зря: ведь водителям доверяется самое дорогое и бесценное — перевозка людей.

**Виктор СВИРКО.**

**Демократия по-белорусски**

## Не удивляйтесь, если коммунист Чикин запретит проведение собрания даже... в сапожной мастерской

Главный партийный функционер КПБ, заместитель председателя Минского горисполкома В.Чикин, цинично запретив рабочим Минского автозавода проведение 14 октября перед административным зданием митинга протеста против нищенской зарплаты (40 долларов по рыночному курсу), полагал, что заводчане утихомирятся. Однако Свободный профсоюз МАЗа сдаваться не собирается и решил направить в Мингорисполком новое уведомление о проведении 28 октября собрания трудового коллектива уже на территории предприятия.

Но "коммунист" Чикин запретил и это внутризаводское профсоюзное мероприятие. Свою размашистую партийную подпись он поставил после гениальной фразы: "*С учетом того, что продукция МАЗа используется в оборонительном комплексе Республики Беларусь, Минский городской исполнительный комитет не вправе разрешить проведения мероприятия на территории завода*".

Действительно, гениальная находка, достойная медали "За безупречную службу в рядах власти"! Ведь на любом производстве обязательно есть продукция, которая используется в оборонительном комплексе: хлеб, макароны, масло, гвозди, гайки и т.д. Исходя из этого постулата, можно запретить проведение собрания трудового коллектива даже... в сапожной мастерской.

Своей подписью "коммунист" Чикин одобряет попрание норм статей 3-й и 19-й Закона о профессиональных союзах, обязывающих предпринимателей, государственные и хозяйственные органы обеспечить осуществление права рабочих на профсоюзную деятельность.

Остается напомнить зампредисполкома Чикину, что за воспрепятствование законной деятельности профессиональных союзов и их органов статья 133 Уголовного кодекса предусматривает наказание исправительными работами на срок до одного года.

**Данила ХАЛЕЦКИЙ.**

## У Гомелі будзе створана арганізацыя салдацкіх маці, чые сыны загінулі ў мірны час

У Гомельскім абласным ваенкамаце адбылося выязное пасяджэнне рэспубліканскага камітэта салдацкіх маці. Яго мэтай з'яўляецца стварэнне ў вобласці арганізацыі жанчын, чые сыны загінулі ў мірны час. Апрача таго, унесены прапановы аб увядзенні ў рэспубліцы адзінага Дня памяці загінуўшых у мірны час салдат, стварэнні Кнігі памяці, разгледжана пытанне аб прысваенні вуліцам і школам гарадоў вобласці імёнаў загінуўшых хлопцаў.

**Аляксандр ПАПОВІЧ, БелаПАН.**

**Так быть не должно**

## Компьютеры вводят пассажиров в заблуждение. На вокзале в Бресте

На железнодорожном вокзале станции "Брест" поставили два компьютера: с помощью одного из них любой пассажир может легко узнать расписание движения нужного поезда, а другой предлагает информацию о самом городе Бресте.

Среди разделов, на которые поделена информация во втором компьютере, меня заинтересовал раздел "Общественные организации". Каково же было мое удивление, когда в этом разделе я увидел всего лишь одну такую организацию — "Белорусское общество инвалидов. Областная дирекция".

При моем совершенно нормальном и уважительном отношении к Обществу инвалидов все равно трудно понять, почему именно эта организация признана создателями базы данных железнодорожного вокзала станции "Брест" единственной существующей в городе общественной организацией.

Получается, что в третьем секторе у нас одни инвалиды и только они проявляют социальную активность и объединяются в общественные организации.

**Алексей ДИКОВИЦКИЙ.**

**Актуально!**

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ,*
*намеснік старшыні Беларускага народнага фронту, кандыдат філалагічных навук;*
*Уладзімір ПАДГОЛ,*
*кіраўнік інфармацыйна-аналітычнага цэнтра Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, дацэнт, кандыдат філасофскіх навук.*

# Беларуская нацыянальная ідэя і выратаванне Беларусі

Беларусь сёння — гэта фармальна незалежная дзяржава: яна мае інстытуты дзяржаўнай улады, сваю тэрыторыю, Канстытуцыю, межы. Па сутнасці ж у краіне пануе марыянеткавы дыктатарскі рэжым. Здзейснены канстытуцыйны пераварот шляхам фальсіфікацыі рэферэндуму. З парушэннем законаў быў фактычна ліквідаваны Вярхоўны Савет. Прэзідэнт прызначыў дэпутатаў у прыдуманыя ім "палаты", разагнаў Канстытуцыйны суд, падабраў суддзяў ва ўсе суды. Захоп улады адбыўся пры непасрэднай дапамозе вядучых палітыкаў Расіі — Чарнамырдзіна, Строева, Селязнёва. І пры маўклівай згодзе Ельцына і ўсіх расійскіх "дэмакратаў".

Палітычная Еўропа не прызнала канстытуцыйны пераварот, "палату" Лукашэнкі і яговыя прызначэнні суддзяў, асабліва канстытуцыйных. Расія прызнала. Форма гэтага прызнання вельмі сімвалічная для нас. Лукашэнка заключыў з Ельцыным Саюз, і ў склад кіруючых органаў Саюза Расія — Беларусь яны ўключылі прадстаўнікоў не прызнанага нікім "парламента" — лукашэнкаўскай "палаты".

Наступны крок імперскіх палітыкаў, ці, як назвалі іх скептычна настроеныя журналісты ў Расіі, "інтеграстов", — аб'яднанне Беларусі і Расіі, гэта значыць, знішчэнне незалежнай Беларусі. Вось красамоўная цытата з першага "русскоязычного учебного пособия по геополитике" аўтара А.Г.Дугіна з "научным консультантом, начальником кафедры стратегии Военной академии генштаба РФ генерал-лейтенантом Н.П.Клокотовым":

*"В отношении Белоруссии геополитическая картина довольно ясная. За исключением небольшой части полонизированных белорусов (католиков, униатов, а также поляков), подавляющее большинство населения однозначно принадлежит русскому пространству и должно быть рассмотрено как субъект центрального евроазиатского этноса, т.е. как (русские) в культурном, религиозном и геополитическом смыслах. Языковая специфика, некоторые этнические и культурные особенности не меняют общей картины. Поэтому с Белоруссией Москва должна интегрироваться самым тесным образом, не забывая при этом о том, что поощрение языковой и культурной самобытности белорусов является важным позитивным моментом во всей системе евразийской интеграции...*

*Единственный болезненный шаг в Белоруссии, который необходимо предпринять для предупреждения центробежных сил и подрывных тенденций, — это выделение в особую административную категорию некоторых областей, компактно заселенных католиками и униатами, вплоть до предоставления им значительной автономии, достаточной для того, чтобы войти в Среднеевропейское пространство. Стремление любой ценой удержать Белоруссию всю целиком под прямым и жестким контролем Москвы приведет к тому, что в ней самой и со стороны западных соседей Россия будет иметь тлеющие угли потенциального геополитического конфликта, который в данном случае ( в отличие, например, от Литвы) может быть решен в интересах всех заинтересованных сторон.*

*Белоруссию следует рассматривать как часть России, и поэтому интеграцию с ней надо проводить по оси Запад-Восток... Настоящая западная граница России должна пролегать намного западнее, поэтому в полноценной геополитической картине белорусские земли скорее относятся к центральной области, чем к западной окраине".*

*(Основы геополитики: Геополитическое будущее России. — М., 1997.)*

Гэтым і да іх падобным планам можна супрацьпаставіць толькі сучасную форму нацыянальнай ідэі.

Калі кажуць пра нацыянальную ідэю, дык звычайна разумеюць толькі ідэю як мару. Але нацыянальная ідэя можа выступаць і як праект, і як сродак дзейнасці, і як стратэгія дзейнасці. І ўключаць у сябе і мару, і мэту, і праект, і метады дзейнасці. Менавіта так у выглядзе стратэгіі дзейнасці мы прадстаўляем сваё бачанне нацыянальнай ідэі.

Сучасную беларускую нацыянальную ідэю ў нашым разуменні можна вобразна паказаць у форме *моцнай рукі*: пяць пальцаў — пяць кірункаў дзейнасці. Пяць кірункаў дзейнасці адпавядаюць пяці стратэгічным мэтам.

Першы кірунак —

### АБАРОНІМ БЕЛАРУСЬ, АБАРОНІМ НАШУ БАЦЬКАЎШЧЫНУ-МАЦІ

Ягоныя мэты:

I. Законнае адхіленне ад улады антыбеларускага недэмакратычнага рэжыму.

II. Байкот выбараў ва ўсе органы ўлады — ад мясцовых саветаў да выбараў прэзідэнта, — калі захаваецца рэжым інфармацыйнага таталітарызму.

III. Выратаванне людзей ад чарнобыльскай смерці.

Нам бачацца наступныя сродкі і метады дасягнення гэтай мэты:

Дзейнасць, галоўным зместам якой і мэтаю ёсць *АДСТАЎКА ПРЭЗІДЭНТА*.

Для дасягнення гэтай мэты неабходна давесці матывацыю адстаўкі А.Лукашэнкі:

а) да большасці грамадзян Беларусі;

б) да міжнароднай супольнасці.

Адным з эфектыўных палітычных сродкаў выяўлення смелых прыхільнікаў адстаўкі павінен стаць збор подпісаў за адстаўку.

Збор подпісаў павінен быць матываваны тым, што Лукашэнка ігнаруе нацыянальныя інтарэсы Беларусі і не выконвае сваіх перадвыбарных абяцанняў, знішчае нацыянальную культуру і ліквідуе незалежнасць Беларусі. Пачынаючы працу прэзідэнтам, А.Лукашэнка абяцаў праз год пакінуць пасаду, калі нічога не атрымаецца. І вось што на самой справе цікавіць яго:

*"Все должны работать, а не организовывать кампании по отрешению от власти президента. Я хочу заявить, что я намерен работать не только этот срок президентом, но и 2 будущих срока. Из этого попрошу политиков исходить и не отрешать меня от власти...*

*Я хочу заявить однозначно: пока меня отрешит кто-то от власти, кой-кого я отрешу до того, как он подумает об этом". (А.Лукашенко. Белорусское телевидение, 29 июля 1996 г., 9.00.).*

Рэжым, мы лічым, распачаў не толькі духоўны генацыд супраць беларускага народа, але і фізічны — ігнараванне смяротнай небяспекі ад чарнобыльскай катастрофы. Грунтуючыся на выказваннях прэзідэнта, што ў чарнобыльскай зоне "можна жыць", маладых спецыялістаў прымусова шлюць працаваць на забруджаныя тэрыторыі і нават пэўныя спартыўныя спаборніцтвы для спартыўнай эліты праводзяць на Гомельшчыне.

Наступная акцыя можа мець назву АСУДЖЭННЕ і мець сваім зместам грамадскі суд над тымі палітычнымі дзеячамі Беларусі, якія знішчаюць незалежніцкую перспектыву нашай дзяржавы і маюць шанц на памілаванне толькі праз пакаянне перад беларускім народам. І перш-наперш мы павінны рыхтаваць грамадскі суд над тымі, хто ўсталяваў сённяшні рэжым, хто спрыяў знішчэнню гістарычнай сімволікі і незалежнасці Беларусі, бо, напрыклад, стварэнне парламента Саюза Расіі і Беларусі — гэта ёсць не што іншае, як акт палітычнага вандалізму.

На лаве падсудных грамадскага суда павінны быць і тыя кіраўнікі краіны, хто па-злачыннаму маўчаў, хаваў праўду пра смяротную небяспеку пасля катастрофы на ЧАЭС, і тыя крамлёўскія правадыры, хто загадваў асадзіць на Беларусь чарнобыльскія воблакі, што рухаліся на Маскву. Грамадскасць павінна сказаць сваё слова і тым, хто пад прымусам накіроўвае маладых спецыялістаў працаваць у чарнобыльскую зону, і тым, хто ігнаруе правы на жыццё ахвяр катастрофы — перасяленцаў-ліквідатараў.

Грамадскасць павінна асудзіць і міліцыянтаў, і суддзяў, якія, ігнаруючы законы, кідалі за краты ні ў чым не вінаватых патрыётаў Беларусі. Суддзяў, якія садзілі ў турму і штрафавалі за лозунгі "Я люблю Беларусь!", "Беларусь — наша Бацькаўшчына-Маці", міліцыянтаў, якія збівалі людзей і складалі пратаколы на глуханямых за тое, што яны быццам бы выкрыквалі антыпрэзідэнцкія лозунгі.

Сказанае вышэй патрабуе тлумачэння.

ГРАМАДСКІ СУД як форма палітычнай барацьбы ўжываўся ўпершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі напрыканцы 80-х гадоў, калі Беларускім народным фронтам быў арганізаваны народны трыбунал над тымі дзеячамі, што хавалі ад свайго народа праўду пра наступствы чарнобыльскай катастрофы. Аналагічная акцыя прапаноўвалася і падчас распрацоўкі стратэгіі прэзідэнцкай кампаніі. Планавалася, што падчас выездаў З.Пазьняка на сустрэчы з выбаршчыкамі ў кожным населеным пункце будзе праведзены антыкарупцыйны мітынг і публічна будуць асуджаныя мясцовыя карупцыянеры. Матэрыялы афіцыйных праверак пракуратуры і Кантрольнай палаты былі ў наяўнасці. (Заўважым, А.Лукашэнка на такіх сустрэчах не называў фактычна ніводнага прозвішча з мясцовых бонзаў.) За дзесяць дзён да прэзідэнцкіх выбараў планавалася правесці ў Мінску антыкарупцыйны мітынг, навукова-практычную канферэнцыю па барацьбе з карупцыяй і *ГРАМАДСКІ СУД* над карупцыянерамі. Да таго ж меркавалася выдаць *ЧОРНУЮ КНІГУ* карупцыянераў на Беларусі з указаннямі прозвішчаў і ўчынкаў. Кніга павінна была выйсці ў выглядзе, напрыклад, дадатку да газеты "Свабода". Такая акцыя, аднак, не была здзейсненая па шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын. Таму набытак БНФ па барацьбе з карупцыяй, які назапасілі дэпутаты апазіцыі, што працавалі ў камісіі па адмене прывілей, у значнай ступені дастаўся Лукашэнку. І вядомы даклад С.Антончыка на сесіі Вярхоўнага Савета ў снежні 1994 года яскрава паказаў моц гэтага накірунку. Таму мы лічым, што *ГРАМАДСКІ СУД* гэтым разам павінен адбыцца, а *ЧОРНАЯ КНІГА* злачынстваў рэжыму супраць Беларусі павінна абавязкова выйсці!

Дарэчы, ідэя грамадскага суда была выкарыстана падчас першага Чарнобыльскага шляху.

Зусім не рытарычнае пытанне — "А суддзі хто?". Перш-наперш гэта павінны быць ветэраны Вялікай Айчыннай вайны. Яны павінны асудзіць тых, хто вінаваты ў адраджэнні таталітарызму.

Злачынцаў павінны судзіць таксама ахвяры катастрофы на ЧАЭС, а замест тых, хто ўжо загінуў, — іх сваякі. Іх павінны судзіць пенсіянеры, што апынуліся на мяжы жабрацтва, і моладзь, якую прымусова накіравалі ў смертаносную зону і кінулі за краты за любоў да Радзімы.

Разам с суддзямі будуць усе, хто паставіў свой подпіс за адстаўку прэзідэнта. І гэта будзе сапраўды ўсенародны суд, маральны трыбунал, які абавязкова пазней пройдзе па ўсіх законах. Але без трыбунала над таталітарнай ідэалогіяй, накшталт Нюрнбергскага працэсу, беларусы ніколі не пазбавяцца рабства, не набудуць свабоды, не пабудуюць Еўрапейскі Дом.

Пачаткам грамадскага суда над здраднікамі Беларусі можа стаць рэферэндум разліковымі лісткамі. Усе, хто працуе, могуць выслаць свае разліковыя лісткі з указаннем мізэрнага заробку на адрас: Мінск, вул. К.Маркса, 38, А.Лукашэнку. Другі этап — гэтымі ж лісткамі паклікаць прэзідэнта ў народны суд.

Грамадскасць павінна ўспомніць усё, што гаварыў А.Лукашэнка. А гаварыў ён такое:

*"...Немецкий порядок формировался веками. При Гитлере это формирование достигло наивысшей точки. Это то, что соответствует нашему пониманию президентской республики и роли в ней президента..."*

*(Минск. Трансляция по первой программе Белорусского радио 23 ноября 1995 года в 19.50)*

А вось яшчэ:

*"Мы, как в 1941 году, находимся во вражеском кольце! Враги засели в руководстве соседнего государства, с которым мы недавно подписали договор о сообществе".*

*(Москва, "Огонек", №43, октябрь 1996 г.).*

Альбо:

*"Выступая недавно перед белорусскими парламентариями, я прямо сказал, что мы есть и будем щитом России на западном направлении. Это не пожелание одного президента. Это воля белорусского народа, и я не имею права торговать его чувствами..."*

*(Брест. Газета "Европейский перекресток", 22 августа — 5 сентября 1998 года.)*

Скажам шчыра: ні на якім рэферэндуме не выказваўся народ Беларусі "быть щитом" для Расіі. І ніводзін чалавек на Беларусі на прэзідэнцкіх выбарах не галасаваў за тое, што пры Гітлеры нямецкі парадак дасягнуў "наивысшей точки".

*ГРАМАДСКІ СУД* ёсць вельмі важны крок да працэсу *ПАКАЯННЯ*.

*(Працяг на 2-й і 3-й стар.)*

Народная Воля 27 КАСТРЫЧНІКА 1998 г.

Параўнаем!

## Навошта паказваць пальцам на Расію? Глядзіце лепей на Літву і Польшчу

Ужо нават і ўлады, і іхнія газеты прызнаюць, што мы жывём кепска. Але пры гэтым паказваюць пальцам на Расію, Украіну, маўляў, там яшчэ горш. Хутка, відаць, будуць параўноўваць з Паўночнай Карэяй і Кубай. Але чаму яны ўпарта не хочуць параўноўваць наш узровень жыцця з тым, што ў Літве і Польшчы?

Неяк Лукашэнка заяўляў: няхай апазіцыя скажа, якім чынам яна падыме зарплату да 250 долараў, я пайду ў адстаўку. Чаму б у такім выпадку не з'ездзіць у Літву і не распытаць, якім чынам там удалося дабіцца гэтага? Хаця адказ відавочны. Бо там праводзяць рэформы і не раздуваюць рэпрэсіўны апарат.

У нас жа з імі былі ў 1991 годзе аднолькавыя стартавыя магчымасці. Але там да ўлады прыйшлі нацыянальна свядомыя людзі і прафесіяналы, якія пачалі ўмацоўваць сваю дзяржаву і развіваць эканоміку, а не турбавацца пра Расію і думаць, як вярнуць чырвоны сцяг.

Паглядзіце, што ў нас робіцца Не хапае тэхнікі для ўборкі, трактарыстаў, даярак... Затое групамі гуляюць па гарадах адкормленыя хлопцы ў форме з дубінкамі. Як эканоміка можа пракарміць столькі ваенных, міліцыянераў, кэгэбістаў, чыноўнікаў... Іх многа, а парадку няма, расце злачыннасць. Шмат наехала з Поўдня, і што толькі яны тут не вытвараюць. Чаму не наладзілі заслону ад іх на Усходзе?

Словам, парадку няма і не прадбачыцца. Як і лепшага жыцця.

**Пётр ПЯТРОЎСКІ.**
г.Маладзечна.

Встречи

## Мэтр польского кино в гостях у минских студентов

Гостем студентов Белорусского государственного университета стал известный польский кинорежиссер Кшиштоф Занусси. Аудитория с интересом слушала рассказ мэтра кино о развитии польского и международного кинематографа. Гостя порадовало внимание белорусской молодежи к проблемам мировой культуры и ее интерес к польскому кино.

**На снимке:** *Кшиштоф Занусси со студентами БГУ.*

**Фото Николая ПЕТРОВА.**

## Чаму расце колькасць чытачоў сталічных бібліятэк?

За апошняе дзесяцігоддзе колькасць пастаянных чытачоў публічных бібліятэк Мінска павялічылася ў два разы і сёння складае амаль 300 тысяч чалавек. Прычыны гэтай з'явы спецыялісты бібліятэчнай справы тлумачаць тым, што кніга з разраду тавару таннага, але дэфіцытнага, перакачавала ў разрад тавару вельмі дарагога. Прыток чытачоў выкліканы і ростам колькасці камерцыйных ВНУ, якія, як правіла, не маюць сваіх бібліятэк, а таксама бурным працэсам стварэння ліцэяў і каледжаў, чые навучэнцы маюць патрэбу ў дадатковай літаратуры.

**Аксана АСПІШЧАВА, БелТА.**

Престиж ПТУ

## "Коней" можно менять и на переправе

Коренная перестройка учебного процесса, как говорится, прямо на марше позволила Гомельскому профессионально-техническому училищу приборостроения №152 не только выжить, но и определить перспективы развития.

Некогда престижное ПТУ в середине девяностых годов оказалось перед выбором: пойти на значительное сокращение набора учащихся, что в последующем грозило самоликвидацией, или начать переориентацию с незначительными изменениями учебно-производственного процесса.

К тому времени основной потребитель выпускаемых училищем кадров — Гомельский завод "Коралл" — резко начал снижать объемы выпуска продукции, а затем и вообще прекратил производство белорусских кинескопов. По тем же причинам отпала надобность в пополнении специалистами и радиозавода. Таким образом, профессии аквадировщика, сборщика полупроводниковых приборов, монтажника радиоэлектронной аппаратуры оказались невостребованными. Руководство училища, проанализировав ситуацию на рынке труда, решило начать подготовку для народного хозяйства перспективных специалистов.

Появились группы по обучению операторов связи, кабельщиков-спайщиков, электромонтеров линейных сооружений телефонной связи и радиофикации, электромехаников по торговому и холодильному оборудованию. А в этом году впервые стали готовить страховых агентов. О том, что стратегия администрации оказалась правильной, свидетельствует и число обучаемых здесь юношей и девушек: оно устойчиво держится на уровне доперестроечных времен.

Чтобы еще больше заинтересовать абитуриентов и повысить престиж ПТУ, здесь начали заключать договоры с высшими учебными заведениями республики аналогичного профиля. **Теперь лучшие выпускники училища зачисляются в вузы без экзаменов.**

Нашли в ПТУ и дополнительные источники финансирования. Понятный материальный интерес к своим будущим специалистам проявляют такие базовые предприятия, как "Гомельтелеком", "Гомельпочта", "Ремтехника", представительство "Белгосстраха". Кроме того, учащиеся сами зарабатывают деньги во время прохождения производственной практики. Практикуется в училище и оказание платных услуг населению.

А с недавнего времени появилась еще одна статья дохода — открылось отделение по переподготовке кадров. Так что, своевременно сориентировавшись, дирекция ПТУ теперь уверенно смотрит в будущее.

**Виктор КОТОВ.**

Ну и ну!

## С минчанки Валентины Гордеюк потребовали уплатить пошлину за обращение к президенту

Жительница Минска Валентина Гордеюк обратилась к главе государства с жалобой. Каково же было ее изумление, когда она вскрыла полученный казенный пакет! Там лежало ее обращение к президенту и сообщение из прокуратуры: "Ваша жалоба пошлиной не оплачена и потому Вам возвращена".

Валентина Петровна пошлину в размере 37 тысяч 500 рублей оплатила. Понятно, в принципе, почему жалобу на имя президента переслали в прокуратуру. Но с каких это пор, спрашивает минчанка Гордеюк, за обращение к главе государства стали взыскивать пошлину?

"Народная воля" не знает. Может быть, даст пояснения Анна Бондарева, которая возглавляет "жалобную" бюрократическую структуру Администрации президента.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

І жартам і ўсур'ёз

## "Не дадзім электарату закурыць!"

Пад такой умоўнай назвай у Светлагорску дзейнічае група маладых хлопцаў. Невядома, ці жартам, ці то ўсур'ёз дзейнічаюць яны, але закурыць хлопцы даюць на вуліцах свайго горада толькі пасля адказу на пытанне: "За каго галасавалі чатыры гады назад?". Калі чуюць, што галасаваў "як трэба", то пасылаюць... закурыць да таго, за каго галасаваў электарат. Менавіта да гэтай катэгорыі хлопцы адносяць такіх людзей. Калі ж нехта галасаваў за Пазьняка ці Шушкевіча, то даюць пачак цыгарэт і адносяць такіх людзей да катэгорыі "народ".

Невядома, ці надоўга хопіць у хлопцаў цыгарэт на гэтую акцыю, але становішча рэспублікі ў тытунёвай справе знойдзе, відаць, прыхільнікаў і ў іншых гарадах так бавіць свой вольны час.

**Ганна УЛАДЗІМІРАВА.**

## Як камерунцы абакралі нігерыйца

Судовы разбор, удзельнікамі якога сталі трое грамадзян з далёкай Афрыкі, закончыўся у Магілёве.

Гісторыя развівалася амаль што па галівудскіх канонах. Сустрэлася тройца ў абласным цэнтры выпадкова, але радасна — землякі ўсё ж. Грамадзянін з Нігерыі гадоў дзесяць таму закончыў беларускую вну, ажаніўся і працаваў у прыгарадным раёне. А калі падсабраў грошай, то прыехаў у Магілёў, каб аформіць выезд на радзіму. Два яго новыя афрыканскія сябры — грамадзяне Камеруна. Прадставіліся яны братамі, расказалі, што ў мінулым годзе спрабавалі паступіць у Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут. Але спазніліся з падачай дакументаў і жывуць цяпер у горадзе, чакаюць новага прыёму ў гэту вну. Яны і запрасілі госця пераначаваць у прыватным доме, дзе самі кватаравалі.

Госць шчодра раскашэліўся на агульную выпіўку і закуску. А раніцай, калі ён яшчэ спаў, браты-гаспадары вырашылі праверыць яго кішэні. Калі ж нігерыец прачнуўся і паспрабаваў працівіцца, яго аглушылі палкай, забралі 2800 долараў ЗША, асабістыя рэчы, а самі злачынцы ўцяклі.

Аднаго з братоў-уцекачоў міліцыя затрымала аж у Віцебску. Суд Цэнтральнага раёна горада Магілёва прыгаварыў яго да шасці гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Другога ўдельніка разбою і крадзяжу яшчэ трэба знайсці.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БелТА.**

## У каго больш грошай?

Усяго па народнай гаспадарцы Беларусі, згодна з апошнімі данымі Мінстата рэспублікі, налічаная сярэднямесячная зарплата ў верасні склала 4 мільёны 663,6 тысячы рублёў. Па-ранейшаму нізкім гэты паказчык застаецца ў калгаснікаў — 2 мільёны 634,1 тысячы рублёў. У рабочых і служачых ён крыху вышэйшы за сярэднерэспубліканскі — 4 мільёны 933,4 тысячы рублёў.

Калі браць расклад па прафесійных сферах, то больш за ўсіх у верасні атрымалі работнікі банкаў — у сярэднім па 9 мільёнаў 204 тысячы рублёў — і супрацоўнікі судовых і юрыдычных устаноў — па 5 мільёнаў 851,6 тысячы рублёў. У сферы матэрыяльнай вытворчасці апярэджваюць іншых будаўнікі — у іх сярэдняя зарплата 6 мільёнаў 572,2 тысячы рублёў, за імі ідуць авіятары — 6 мільёнаў 371,4 тысячы рублёў і прамыслоўцы — 5 мільёнаў 945,7 тысячы рублёў.

**Таццяна СМІРНОВА.**

## Укралі трактар...

У калгасе імя Калініна Касцюковіцкага раёна прапаў трактар МТЗ-82. Як мяркуюць работнікі мясцовага РАУС, трактар, хутчэй за ўсё, зладзеі пераправілі праз граніцу — у Расію.

**БелТА.**

## Беларускія вучоныя бяруць удзел у буйнейшым праекце міжнароднага навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва — CMS

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі старшыня Дзяржкамітэта па навуцы і тэхналогіях Віктар Гайсёнак, найбольш маштабным праектам міжнароднага навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва з удзелам Беларусі з'яўляецца распрацоўка і стварэнне вымяральнага комплексу CMS. Работа ажыццяўляецца сумесна з Еўрапейскімі цэнтрамі ядзерных даследванняў (ЦЕРН) у Жэневе. У ім бяруць удзел 1700 фізікаў і інжынераў са 150 інстытутаў 32 краін свету. Кошт праекта ацэньваецца ў 350 мільёнаў долараў. Прафесар В.Гайсёнак назваў CMS-комплекс "устройствам будучага", на якім фізікі ўсяго свету будуць працаваць у XXI стагоддзі. Гэтае прыстасаванне ўяўляе сабою комплекс вымяральных прыбораў, прызначаны для ўстаноўкі на велізарным паскаральніку часціц на сустрэчных пратонных пучках, які будуецца ў Швейцарыі. Ажыццяўленне CMS-эксперыменту, як лічаць аўтары праекта, дазволіць вырашыць загадку аб існаванні так званых хігсавых базонаў — пераносчыкаў фундаментальных узаемадзеянняў, якіх фізікі-эксперыментатары шукаюць ужо больш за 20 гадоў.

Як адзначыў на прэс-канферэнцыі кіраўнік праекта CMS Мішэль Дэла Негра, Беларусі выгадна удзельнічаць у гэтым праекце, паколькі прадпрыемствы будуць атрымліваць прэстыжныя заказы (па крайняй меры, да 2005 года), а беларускія вучоныя і інжынеры змогуць павышаць свой прафесійны ўзровень.

Каардынатар праекта CMS ад Расіі, акадэмік Расійскай інжынернай акадэміі Ігар Галутвін заўважыў адносна гэтага, што за апошнія гады аўтарытэт беларускіх вучоных у свеце, нягледзячы на цяжкія часы, значна ўзрос.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

Без ретуши

## Нет и не будет прощения

Прочел я в вашей газете статью "Цену правды спроси у мертвых" и вместе с автором до глубины души поразился цинизму профессора А.Залесского, который на склоне своих лет так издевательски отзывается о жертвах сталинского террора.

Эту трагедию народа я испытал на себе. Мои отец и мать были расстреляны в 1937 году, когда мне было 7 лет. Нас осталось четверо малолетних сирот. Вместе с родителями были расстреляны четыре брата отца, мой дедушка, три брата матери. Все они — из маленькой деревни Крушники в Мозырском районе. Все были совершенно безграмотные крестьяне.

А "вина" их состояла в том, что старший брат отца еще до революции женился и поселился в Давид-Городке, который впоследствии оказался на территории Польши. И чтобы не дай Бог между братьями не было "вредных" контактов, уничтожили всю родословную... Так в чем же их вина перед государством, уважаемый профессор? Как только у вас, человека преклонного возраста, поднимается рука писать о безвинных жертвах такую мерзость? И сколько их, бессчетно загубленных судеб, на нашей несчастной земле!

...Я читал протоколы допроса обвиняемых и видел на них черные пятна засохшей крови. Если не верите, то посмотрите в Гомельском УКГБ уголовное дело моей матери, Юницкой Ефросинии Ивановны, и убедитесь в этом сами. Вот какова она, "гуманная", а деле кровавая в буквальном смысле сущность сталинщины, взятой вами под защиту. У большинства людей ваши, А.Залесский, опусы вызывают отвращение. И нет вам прощения ни от живых, ни от мертвых жертв террора.

Мне хотелось бы посмотреть вам, профессор, в глаза и сказать, как вы низко пали!

**Эдуард ЮНИЦКИЙ,**
**пенсионер.**
*г.Мозырь.*

Впечатления

## Проданный смех

Когда-то я очень любила "Христофор", ходила практически на все их спектакли. В этом театре всегда можно было отвлечься от каждодневных проблем и просто вволю от души посмеяться.

Последние года полтора выбраться в театр у меня не было возможности, посему, признаюсь, концерта-презентации книги главного режиссера театра "Христофор" Евгения Крыжановского "У Христофора за пазухой" ждала с нетерпением.

Презентация длилась около трех часов. Честно говоря, подготовлено шоу было неплохо: совершенно ненавязчиво были представлены спонсоры, проводились любопытные конкурсы и розыгрыши с подарками, задушевно пел Анатоль Длусский. Но я, мягко говоря, была несколько разочарована...

Лет пять-шесть назад театр "Христофор" действительно оправдывал свое название — был Минским театром сатиры и юмора. Там смеялись от души, порой до коликов в животе. На сегодняшних спектаклях "Христофора" не смеются, а... лишь едва улыбаются. Смех, к сожалению, покинул стены этого некогда популярного в народе театра. Кто-то скажет, мол, денег у людей нет, жить не на что, есть нечего, какой уж тут смех... Но юмор, а уж тем более сатира — не деньги. Юмор не заканчивается, какой бы критической не была ситуация в стране. Смех нельзя купить, нельзя продать. На спектаклях "Христофора" смеялись, потому что они были актуальны. В былые времена был бешено популярен Карандаш: он мгновенно реагировал на происходящие события и обыгрывал их. Теперь артисты театра по несколько раз рассказывают один и тот же анекдот. К тому же уже порядком изгрызенный молью. Сатиры, актуальной для нашего времени, в спектаклях, увы, нет.

"Христофор" всегда любили за смелость. Никто никогда в Беларуси прилюдно не пародировал президента. Они — решились... Это вызывало шквал положительных эмоций. И самая лучшая реприза у них была про политику. Естественно, в ней не назывались конкретные имена, фамилии, должности, но все было понятно. Сейчас мы словно возвращаемся в старые советские времена, когда за всем и вся следили комитетчики. И сегодня народ Беларуси морально уже готов воспринимать подстрочный юмор, готов читать между строк. Но... Теперь такой возможности ему не дает даже единственный в Беларуси театр сатиры и юмора.

Сегодняшний "Христофор" — это театр одного актера. Театр Евгения Крыжановского. И только за это ему уже давно стоило бы присвоить звание воистину народного артиста Беларуси. Он действительно его заслужил: Евгения Крыжановского знают от мала до велика. Но... Видимо, у власть предержащих на сей счет свое мнение. Сугубо чиновничье...

**Ирина ГРАМЫКО.**

Крымінал

## Знойдзены ключ да разгадкі

Па падазрэнні ва ўчыненні забойства жанчыны ў Маскоўскім раёне Брэста супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі 22-гадовага брастаўчаніна К. Пры вобыску ў яго дома быў знойдзены пісталет, які з дапамогай экспертызы даў ключ да разгадкі цэлай серыі забойстваў, якія ўзбударажылі горад над Бугам амаль два гады таму.

У лістападзе 1996 года на аўтазаправачнай станцыі была забіта аператар, а з касы выкрадзена 24 мільёны рублёў. Праз два тыдні ў прыгарадзе быў знойдзены аўтамабіль, побач з якім знаходзіўся забіты двума выстраламі вадзіцель панчошнага камбіната. Яшчэ праз паўмесяца пад Кобрынам быў знойдзены труп прыватнага таксіста. Гэты ланцуг злачынстваў у канцы студзеня 1997 года завяршыла жорсткае забойства яшчэ аднаго прыватнага таксіста.

Вялося актыўнае расследаванне, аднак да гэтага часу забойца заставаўся невядомым. І толькі апошняе забойства і арышт мяркуемага злачынцы паказалі, што і чатыры папярэднія ахвяры былі пазбаўлены жыцця з дапамогай канфіскаванага ў яго пісталета. Следчыя органы маюць і некаторыя іншыя доказы, якія пацвярджаюць вінаватасць арыштаванага. Следства працягваецца, а канчатковы вердыкт павінен вынесці суд.

**Іван КУКСА, БелТА.**
Брэст.

Экспозиции

## Вас приглашает Петр Явич

В залах Витебского художественного музея открылась экспозиция работ старейшего художника Придвинского края Петра Явича. На ней представлены картины, завоевавшие заслуженное признание на республиканских и международных выставках. Выставка приурочена к 80-летию со дня рождения ветерана войны и труда.

**На снимке:** *художник Петр Явич.*
**Фото Александра ХИТРОВА, БелТА.**

# Беларуская нацыянальная ідэя

*(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)*

Нацыя беларусаў ніколі не адродзіцца, пакуль не пройдзе духоўнае ачышчэнне. Людзі, якія сёння жывуць на Беларусі, у асноўнай сваёй масе былі задзейнічаныя таталітарным рэжымам з аднаго боку ў выглядзе "винтиков" і ахвяр, з другога боку — у ролі катаў.

Адна з асноўных функцый таталітарнага рэжыму — абсалютнае падпарадкаванне сабе кожнага чалавека, знішчэнне асобы і ператварэнне яе ў раба (шрубку). Адным з метадаў падпарадкавання сабе людзей быў механізм астракізму, калі людзей прымушалі выконваць роль катаў і "сабак на ланцугу", каб яны цкавалі "белых варон" — тых, хто не хацеў падпарадкоўвацца сістэме. Такім чынам, псіхіку людзей, менталітэт беларусаў зламалі так, што нават у дзяцей тых, каго ў 30-я гады рэпрэсавалі, сёння няма імкнення асудзіць катаў і няма імкнення асудзіць рэпрэсіўны рэжым. *Без такога асуджэння і без пакаяння за саўдзел у фармаванні таталітарызму нацыя беларусаў ніколі не адродзіцца.*

Многія з тых людзей, якія сёння жывуць на Беларусі, падтрымлівалі на сходах маральнае асуджэнне "беларускіх буржуазных нацыяналістаў", пасля чаго гэтых "нацыяналістаў" — беларускую інтэлігенцыю — расстрэльвалі. Потым падтрымлівалі асуджэнне "кулакоў" і "сераднякоў", пасля чаго моцных, працавітых, руплівых і мазгавітых гаспадароў высылалі і расстрэльвалі. Асуджалі венгерскіх "сепаратыстаў-нацыяналістаў" і радаваліся крыві, у якой тапілі людзей, якія хочуць жыць свабодна. Пляскалі ў далоні, калі савецкія войскі танкамі душылі чэшскіх патрыётаў. Напіваліся ад радасці, калі іх дзеці ехалі ў Афганістан страляць мясцовых партызан, і сціскалі кулакі ад нянавісці да душманаў, калі іх дзеці вярталіся дамоў у цынкавай дамавіне.

Гэтыя людзі верылі хлусні, што сябры БНФ — "паліцаі", "здраднікі", "паслугачы заходняга ворага". Сярод тых, хто не толькі верыў, але і распаўсюджваў гэтыя плёткі, была і вялікая частка тых, хто лічыць сябе інтэлігенцыяй. Таму многім, вельмі многім з нас трэба прайсці пакаянне за нашы свядомыя і несвядомыя правіны.

Абсалютная большасць людзей лічыла, што парадак, які ўсталяваны ў іх савецкім доме, — самы перадавы ў свеце, а ўсе, хто жыве інакш, ёсць ворагі ці дурні. Настаў час пакаяцца, і тады абарона свайго ўласнага Дома — дзяржавы Беларусь — магла б зрабіцца найвышэйшай мэтай, а імкненне адрадзіць імперыю ўспрымалася б як трызненне, сіндром-хвароба патэнцыяльных самагубцаў.

Каяцца неабходна не толькі за саўдзел у маральным катаванні суродзічаў, але і ў катаванні сваіх дзяцей — катаванне ўласным бяздзеяннем. Бо кожны з нас вінаваты ў тым, што нашы дзеці елі чарнобыльскія харчы, а мы не дамагліся таго, каб быў створаны эфектыўны дазіметрычны кантроль, мы не дамагліся адсялення людзей з забруджаных "зон", дзе вырошчваюць хлеб, вытвараюць малако, і гэта ўсё трапляе на паліцы нашых крамаў, і мы самі кормім гэтым сваіх дзяцей. Мы ўсе вінаватыя перад сваімі дзецьмі і ўнукамі. Маральнае пакаянне — гэта самаасуджэнне, пасля якога ўзнікае жаданне жыць інакш, па-новаму, ды парваць са старым ладам.

Не пройдзем гэты маральны рубеж — не ўзнікне сапраўднай нацыі, застанецца тое, што выдатны бард Віктар Шалкевіч трапна назваў "жлобскай нацыяй" — нацыяй катаў і ахвяр, жабракоў і крымінальных багацеяў, несуноў і балбатуноў, алкашоў і бамжоў, нацыяй самагубцаў.

Асуджэнне злачынцаў, якія сёння пры ўладзе, пакаянне перад самім сабой, дзецьмі і Богам, спроба абараніць сваю Маці — Радзіму, — усё гэта патрабуе адраджэння ў сваёй душы пэўных маральных якасцяў. Вось адзін з найважнейшых складнікаў нашага Адраджэння.

А.Лукашэнка і ягоныя памагатыя спадзяюцца на выратаванне за кошт імітацыі дэмакратычных выбараў. Мажлівы сцэнар падзеяў у свой час агучыў вядучы "Рэзанансу" Зімоўскі:

1.Выбары ў мясцовыя саветы — 1999 год;

2.Выбары ў "палаты" — 2000 год;

3.Выбары прэзідэнта — 2001 год.

Вядома, што выбары ў мясцовыя саветы рэальна могуць быць праведзены толькі пры поўным доступе ўсіх апазіцыянераў да сродкаў масавай інфармацыі — газет, радыё, тэлебачання. І больш за тое, існуе верагоднасць, што вертыкаль "паспрыяе" выбару ў мясцовыя саветы як мага большай колькасці дэпутатаў з ліку апазіцыі. Гэта стане казырнай картай дыктатара на перамовах з Захадам, доказам быццам бы "дэмакратычнасці" пануючага рэжыму. Але ж трэба помніць, што сёння мясцовыя саветы ў сапраўднасці нічога не вырашаюць. У гэты самы час насельніцтву будзе даведзена думка, што эканамічныя цяжкасці, рост цэн узніклі па віне дэмакратаў і нацыяналістаў, бо яны "скушали" грошыкі на выбары і сваё ўтрыманне.

На выбарах у палаты "вертыкаль" можа таксама прапусціць апазіцыянераў. Але тое, як распускаецца парламент "по решению народа", мы ўжо бачылі.

Трэба памятаць, што А.Лукашэнка пойдзе на любыя імітацыі, каб толькі захаваць сваю ўладу. Ён невыпадкова публічна заяўляў, што будзе прэзідэнтам і 10 год, і 12. Ён, на наш погляд, збіраецца быць прэзідэнтам вечна, бо цудоўна разумее, што як толькі страціць уладу, дык адразу можа займець праблемы — прычым іх створаць яму якраз не клятыя апазіцыянеры, а сённяшнія адданыя паплечнікі. Паводле даных ананімнага апытання, каля 93 працэнтаў сённяшніх супрацоўнікаў "вертыкалі", уключна з Адміністрацыяй прэзідэнта, ставяцца да першай асобы "крытычна" альбо "надзвычай крытычна", а каля 68 працэнтаў схільныя ў той ці іншай форме прыняць найважнейшыя ідэі Народнага фронту.

Вось чаму сённяшні прэзідэнт так настойліва імкнецца ў Расію. Там ён мае шанцы: мець абарону сваёй улады альбо схавацца, калі ўзнікне пагроза, альбо выйграць выбары на царскі трон "невиданного миру государства".

Давайце ўспомнім пра тое, як пасля разгрому гітлераўскага рэжыму ў Германіі некалькі год не праводзіліся выбары. На працягу гэтага часу праходзіла санацыя свядомасці немцаў — дэнацыфікацыя. Падобным шляхам павінна прайсці і свядомасць грамадзян Беларусі. Славянафашызм, які насаджаюць створаныя рэжымам СМІ ў мазгах нашых грамадзян, павінен быць выкарчаваны!

Нельга сёння не бачыць пагрозы таго, што замест Еўрапейскага Дома мы можам апынуцца спачатку ў расійскім стойле, а потым у... дамавіне. Бо чарнобыльская бяда вызначае лёс кожнага з нас — і "лукашыста", і дэмакрата, і нацыяналіста, і "дафеніста".

Складнікам сучаснай формы нацыянальнай ідэі павінна стаць мэта дамагчыся ад Расійскай Федэрацыі як правапераемніцы СССР адказнасці за асаджэнне смертаносных воблакаў на Беларусь, выплаціць больш за трыццаць мільярдаў долараў у якасці законнай кампенсацыі — хай сабе і на працягу пэўнага часу.

Нам усім трэба ўсвядоміць, што пасля Чарнобыля для беларусаў пачалося жыццё ў новым вымярэнні. Кожны з нас атрымаў радыяктыўны ўдар. І нашы дзеці будуць пакутаваць больш за нас. А лёс нашых унукаў непрадказальны і невядомы нікому.

*АБАРОНА* незалежнасці Беларусі ўсімі законнымі сродкамі ёсць, паводле Канстытуцыі, абавязак кожнага сапраўднага сына Бацькаўшчыны. І калі дзяржаву паспрабуюць знішчыць, дык менавіта канстытуцыйны абавязак кожнага грамадзяніна — бараніць яе гэтак, як бароняць бацьку і маці.

Другі кірунак стратэгіі Моцнай Рукі — складнік сучаснай формы беларускай нацыянальнай ідэі —

### "ВЕРНЕМ БЕЛАРУСЬ У ЕЎРАПЕЙСКІ ДОМ"

Гэты накірунак дзейнасці павінен фармаваць у свядомасці грамадзян Беларусі еўрапейскі вектар інтэграцыі. Наша задача давесці да як мага большай колькасці людзей веды пра тое, што нашы славутыя продкі ў галіне навукі, дзяржаўнага будаўніцтва былі зоркамі еўрапейскага маштабу. Наша Канстытуцыя — Статут Вялікага княства Літоўскага — стала адной з першых дэмакратычных Канстытуцый Еўропы, узорам як для еўрапейскіх дзяржаў, так і для азіятаў, што жылі за ўсходняй мяжой. Мы мелі дзесяткі друкарняў у той час, калі нашы суседзі-азіяты з Маскоўскага княства не мелі ніводнай. Нашы продкі вучылі рускіх цароў грамаце.

Лозунгі, якія нарадзіліся падчас першай прэзідэнцкай кампаніі, "Беларусь — Еўрапейскі Дом", і ў 1996 годзе (падчас зімовых выступаў моладзі супраць дыктатуры і дыктатара) — "Беларусь — у Еўропу" павінны быць супрацьпастаўленыя мазахісцкім памкненням тых кіраўнікоў, якіх у Еўропе прывабліваў рэжым Адольфа Гітлера і якія кажуць пра тое, што яны "на каленях гатовыя паўзці ў Расію".

Каб дасягнуць гэтай мэты, мала адных мітынгаў і шэсцяў у абарону нашай незалежнасці, хоць ад іх адмаўляцца ні ў якім разе нельга! Мы павінны без шавіністычнага ўхілу, але выразна паказваць нашым суграмадзянам, што сённяшняя расійская палітыка — гэта небяспека нашай незалежнасці, гэта перспектыва для нашага народа быць уцягнутым у халодныя і гарачыя войны за чужыя інтарэсы. Зыходзіць мы павінны з таго, што ў сённяшняй Расіі няма рэальных палітычных сіл (гаворка не ідзе пра асобы), зацікаўленых у незалежнай, еўрапейскай Беларусі — гэта значыць, у рэалізацыі жыццёва важных для нас мэтаў. Карацей кажучы, не трэба нічога выдумляць, а трэба давесці да ўсіх, хто сёння жыве на Беларусі, што Расія ёсць тое, што кожны дзень паказвае Расійскае тэлебачанне, — КРОЎ — ВАЙНА — СМЕРЦЬ, КАРУПЦЫЯ — ЗЛАЧЫННАСЦЬ — НАРКОТЫКІ — ПРАСТЫТУЦЫЯ І ЭКАНАМІЧНЫ КРАХ ІМПЕРЫІ.

Пры гэтым мы павінны праяўляць салідарнасць са звычайнымі расіянамі, якія пацярпелі ад войнаў, нястач, неатрымання заробкаў і г.д. І салідарнасць мусіць набываць формы кшталту збору сродкаў дзецям, чые бацькі загінулі ў Чэчні, збор сродкаў тым, хто падоўгу не атрымлівае заробкаў. Пасля збору сродкаў у пікетах і на прадпрыемствах неабходна ўрачыста перадаваць гэтыя сродкі ў Расійскую амбасаду ў прысутнасці прадстаўнікоў СМІ. Дадзеныя акцыі прыводзяць да вельмі істотных зрухаў у свядомасці грамадзян, настроеных па-прарасійску. Калі яны па тэлебачанні бачаць "российский беспредел", тады ў іх свядомасці не ўзнікае думкі, што пасля інтэграцыі будзе і ў іхнім доме, як у расійскім. Калі ж такому чалавеку прапануеш падаць бедным расіянам на "пропитание", у яго галаве адразу "замыкае", а сучасная тэлекарцінка робіцца рэальнай перспектывай.

Еўрапейскую арыентацыю менталітэту грамадзян Беларусі неабходна фармаваць на падмурку гістарычных фактаў у спалучэнні з шэрагам сумесных акцый з прадстаўнікамі еўрапейскай грамадзянскай супольнасці.

Трэці кірунак дзейнасці і складнік нашай нацыянальнай ідэі ў сучасным выглядзе можна абагульніць лозунгам

### "ПАБУДУЕМ БЕЛАРУСЬ — НАШ ДОМ, НАШ ХРАМ"

Яго мэтай, на нашу думку, павінна быць:

— абуджэнне ў свядомасці нашых людзей любові да Беларусі;

— фармаванне гістарычнай памяці, самасвядомасці, патрэбы ў культурнай самаідэнтыфікацыі;

— фармаванне грамадзянскай супольнасці на базе нацыянальнай ідэі;

— фармаванне палітычнай самасвядомасці, гістарычнай памяці, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі на базе беларускай нацыянальнай ідэі.

Адна з формаў рэалізацыі гэтага кірунку — правядзенне творчых конкурсаў "Наш Дом Беларусь у XXI стагоддзі". Конкурсы могуць пачынацца з сустрэч нашай творчай інтэлігенцыі з людзьмі, найперш — з дзецьмі і моладдзю. Дэманструючы перад імі ўзоры сваёй творчасці, эліта нацыі заклікае да творчасці слухачоў, гледачоў чытачоў... Выніковыя выставы павінны стаць перасоўнымі. Падвядзенне вынікаў конкурсаў мусіць стаць святам нацыянальнай культуры, сродкам абуджэння самасвядомасці і метадам яе фармавання.

На працягу апошняга года група нашых вядомых пісьменнікаў кожны месяц праводзіла дзесяткі сустрэч з чытачамі. Так, у адной Гародні было праведзена за чатыры дні 35 сустрэч. Разам з адным з аўтараў гэтага матэрыяла выступалі Рыгор Барадулін, Васіль Сёмуха, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Арлоў, Алесь Разанаў, Сяргей Законнікаў, Міхась Скобла; з імі выступалі і паэты-барды Віктар Шалкевіч, Зміцер Бартосік, Ігар Мухін-Рабянок, Сяргей Кулягін. На кожнай сустрэчы гадзіну ішла размова і пра літаратурныя праблемы, а большую частку часу — пра жыццё ва ўсёй яго разнастайнасці. Інтэлігенцыя на месцах літаральна ўстала з каленяў. Бо стан прыгнечанасці, роспачы, бяссілля апанаваў душы шмат якіх беларускіх інтэлігентаў —асабліва пасля двух лукашэнкаўскіх рэферэндумаў (дзеля гэтага яны, дарэчы, і арганізоўваліся антыбеларускімі сіламі).

І сітуацыя на месцах аказвалася зусім не безнадзейнай! Напрыклад, у Брэсце падчас адной з сустрэч кіраўнік гарадской вертыкалі, убачыўшы, якім аўтарытэтам карыстаюцца пісьменнікі, закрычаў дзецям-школьнікам: "Даю вам 30 секунд на атрыманне аўтографаў!". Калі ж, даючы аўтографы, пісьменнікі пісалі на сваіх кніжках "Беларусь — наш Дом, наш Храм!", "Беларусь — наша Бацькаўшчына-Маці", "Абаронім наш Дом — Беларусь!", "Жыве Беларусь!", раззлаваны чыноўнік кідаўся да пісьменнікаў са словамі: "Я забараняю вам пісаць на кніжках якія-небудзь словы, акрамя вашых аўтографаў!".

